Асэнсаваньні паводле: В.Ластоўскі “Падручны расійска—крыўскі (Беларускі) слоўнік”. Коўна, 1924. Друкарня А.Бака, Коўна, вул.Ожэшко 5. Тэл.970. Выданне Міністэрства Беларускіх спраў у Літве.

**ЮСТЫНКІ**

## НЕАБХОДНЫЯ ТЛУМАЧЭНЬНІ

Гэта ня вершы, праўда, рыфмаваныя з большага. Натуральна, і ня проза. Шукаць сэнс таксама ня варта. Але ў кожным “ашчэпку” ён недзе ёсьць. Рыфмы – выпадковыя, эмацыйныя, больш зададзеныя рытмікаю словаў і іхным сэнсам. Колішнім. Словы пэўныя, адпаведныя, правільныя, паводле друкаванага слоўніка (прыкладаецца). У некаторых ёсьць пэўная варыятыўнасьць, аднак, адпаведна правілам мовы, як сёньняшнім, так і Тарашкевіча. Назвы (загалоўкі) – словы на балонках (старонках) слоўніка Ластоўскага. Альфабэтная сістэма была на пачатку. Потым – выпадкова адкрытыя старонкі. Назвы на пачатку ў рускай транскрыпцыі беларускай графікаю.

Мама, не чытай усё ў запар. Перачытваў і сам, і не змяніў многа, бо ішло, як ішло. І падаецца проста як атрымалася. Джэймс Джойс Эліот і яго “Уліс”... Калісьці М.Р.Гнеўка нам чытаў....

І гэта ня варта чытаць як паэму, напрыклад “Тадэвуш” ці “Анегін”. Хутчэй, як ХОКУ.

**Эпіграф:**

**Н**ешта
Пану з мыта
Дана I
Незаўнялі
Дзе
Ў
Кагосьці
Выбачайце
Яга
Мосьці

**ЗБАВЕННЕ**

Няўпадны дух
чакаў збавення
Шукаў
трымцеў у пакутах слоў
Няўпадны дух
знайшоў
прынес
загінуў
і
знайшоў
сябе
і
што
мы
зразумелі
ў
яго
збавенні
...крыўскі крыгаход...

**Мазджэра**

Эра
Мазджэра
Разнесьці ў попел
полымем скрухай
засцілаць наўскрозь
Эра Мазджэра
ня ўпомнім кагосьці
зберам, засыплем
косьцю у косьць
Эра
маджэра
зарыемся ў шанцы
зрыем абцасы
А ё не маё
Эра маджэра
даволі гулянцы
Каспер кладзе
і сваё дзяўчынё
Эра Маджэра
Усё будзе заўтра
Мадяры
жывыя
нап’юцца віна
рукі і ногі
будзьма гайдацца
У размазджэранным
сутонні
Дзвіна –Палата

**КАЛОНА**

Стоўб
Калюмнада
калюмнадацца
Прымроіцца
як сытная Каляда
зняверкаю
няшчымліца
на
лядах
стаўбом
ня здесьненых
жаданнях
стоўбалядах

**Колоніальный**

Прывожаны з гарачых ад краёў
Прылушчаны няўмелымя пяскамі,
Паверены і ўпэўнены ў сваё
заўжды чакаймый
груганамі

**Колотіть**

Як да некага прыйсці
Ды прыкласці
Чым аб што
Можа морду патаўчы
Але ж лепей
Каштані за грудзі
І
Ад страху
І
  накласьці

**Колоть**

Будавельля
Поркаць быдла
калацьцё калюча
нечым вострым колкасць
коле
бадыгой
уключай

**Колоть**

Пашчарпалася свіння
Дошка закалолася
клінаватаю сякераю
яны ў двух прымроіліся
Як калюкаю басьці
Счапаліся
стрэскаліся
Божа мой
мяне даруй
быдлаватай трэскасьцю

**Кол**

Сеў на кол
Калочак
На дручок
Друччочак
Кольлі і друкі
Беларуса дружбакі

**Прїжімать**

Ты прыцісьлівы сябрук
любіш прыціскацца
прыцісканне
як прынук

прыціск
прыцьсь
у срацы

**Пріжмуріть**

Прымітурыўшы ў прымхах
прыміткі прымроію
вочы прымаўкі
прымітнуць
і
ня
не
заняволяць

**Прізаріцца**

Спагаліцца спаквальля
спагвапіцца
Да каго
ці да чаго
як напіцца
Прычыніць
ці даглядаць
прымітурыць
злуднай прыміснасьцю
Ці атуліць.

**Прізрак**

Прымерснасць у начы
а дзённа – Мара
зданяю лунае быццам хмара
не кранай
рука не мае волі
бо яна як
доўгакантавік
Ці прызма

святло
Кладзе
на вока

**Прізнак**

Ці маеш азнаку
знаную
і адметную
а можа ты толькі пазнаны
і маеш нагародны
Дар
тады ты альбо
пераможнік
альбо
Здабыча

**Прізвать, прізнаніе, прізятіть**

Каго куды прызваць у прымакі
Ці заклікае
схільнасць
дар ці талент
пазываючы
і пачуць
і не забыць
што найперш
ёсць Жыццё
а што Іначай

**Пріказ, пріказчік пріказывать**

Прыстоўчы муха адганяе
Яго празрыстая рука
як прыганяты прышпіляе
акрыльца бела матылька
Загаднік думаў прысабечыць
прыквасіцца яго душы

Чакайма рыфму
Не душы
Ён здох

**Пріколка**

Прышпілка ў вечары
То поўня
Прышпілка з раніцы
То здань
Агоўтацца ня позна
калі ты пакаёвая
прышпілка.

**Пакаёвы**

Пакаёвы прысаромеў
лЕг каб адпачнуць
дотыкам прыскарабаціў
сам сабе
здрадніку не прыквасіць
каб крыху і прыскароміць
не ў ману
пану
меньш ня будзе
не
у
труну
Прыжыргаць
пакуль хто бачыць
прыкурнуць
прыкарабаціць
ды саснуць
А з раньня
я
не
Я
і хата не мая

**Баба**

Баба-юга
Маладуха, маладзіца
дзе здранцьвенне
дзе маліцца
Бабарыха бабалюб
не ачолены ня шлюб
Баба
Бабачка
Бабуля
адбабуліць і ачуліць
Маладзіца і юга
перакусаюць пупа
Песьні пой
а можа
Й
плача
І за выганам
Югася

**Бабочка**

Матулёк мятуліцца
дзе б яму атуліцца
Няўпрыкмет
хапала лет
На парпуравы басог
Не зачэпіць
ног

**Базар**

На таржышчы
нешта свішча
канфетуры, мёд ды інша
каму кодыр качубай
ды й з нянацку налятай
Ёсць рызынкі ды рыззё

сушанінаў і лісьцё
На гарышчы
гэтак свішча
там дранцьвеюць
Гэта
Інша

**Фляга — біклага**

АбручнОе
Бы з дзёгцем начыньне
на чые з шыяй грудзі
прывесіш
Пад
маскалёвыя брагзачы
падымеш шчырцу плугам
на чыёй ральлі
Будзе
ў зямлі
пустая
Біклага

**Балаболка — балаган**

Пашумёлка
Болка
Рукамеслая лубнянка
Абаранaчкі з вазоў
Чаравічкі з туясоў
Падудукаць не хадзі
Па за фартухам нясі
Не прынеслымі ня будзем
Адлягло з кумой
Ды
й
Будзе

**Балалайка**

Балабайшчык балабаіць
Струнамі снадзіва ладзіць
Лындзіць і гультавіць
І пад віхт
Разквітаўся
Быццам з кімсьці
Развітаўся

**Баланс**

Пад віхт
расквітаўся зь ім
летась
Пад стрэху
аддаў збажыньнё
А сёлета зноў у даўгу
дзіце
пераасвёрылася
За нагу

**Баласт**

Засапаныя ў кодаб карабля
Ці жывыя астоістнасці прагнуць
Камяньнё і жвір
Таксама
Мараць
З зямлёй спаткання
І пад вадою
Зямля.

**Балахон — Балбес — Балда**

Насоў аболтус неяк прышчапіў
Як дурнаце
то й камні не прынука

Што ўбіў
то ўехаў
Целяпей цяльпухі
даўбней грызлівых
надта многа
Кандрату дзядзьку
у дападмогу.

**Балдахін**

Бальдахінам над ложкам
Кудашыцца
У хатыль брац ь
бязураных рабят
Няхай прымроіцца
А то прысьніцца
Бярна
Дурэючая
Прыхамаць

**Баль**

Аргамачыла балёвая апаяска
Праз прымыйнік кукарду несла
Забубенілася
і
Засварылася
і
Заквактала
і
Забалохталася
і
Зачабохталася
і
Заходалася
і
Затузалася
і
Хай бы навучылі
і

За чым
і
Навошта

**Барда — Баржа — Барікада**

Паня
Панюхначка
Панечка
Лагу пад ветразі
Брагаю шкоты
Стругамі лайбамі
Завалы
Дурноты
За стол п’янаю
У ложку паннаю
А панічу краснаму
Сакаліцай яснаю

**Бархат — Барыш — Барьер — Бассейн**

Аксамітны магарыч
У застаўні
Вадасток

**Басня — Баснословный — Батрак**

Басню баіць парабак
За кавалак зямлі і ардынарыю
І кумец ён
І бабыль
І ня ў праўду
І ня ласціцца
І ня хвасьціцца
Ардынатарны
жабрак

**Баул – Башлык**

Векам круглаваты куфар
Мохраю апрануты каптур
У скрыню
Шлык
на нос
Барлёчны
Чаравік

**Башня – Бёдра**

Мураваная маляваная
Укокобіла кульшы
Свомасць чоўкага
Чукаватага
А не чулага
У душы
Заняволіла
Прыгалубіла
У нясчыньняе вачэй
Нехлямяжнае
Безаладнае
Уладкаваная
Вежа ўладжаная
Ад САшы
ды
У камАшы

**Безбояздный — Безбрачіе — Безвластіе**

Несмач
Бязжэннаму жыццё
І непагадзь дарэмная
І мука
Безпаваротнае безладьдзе
І прынука
Няволгкае
і
Недарослае жыццё.

**БЕЗ...**

Бязнаўдны недаростак
Бязчасны і няшкодны
Бязвершчыны наростак
Бязвемніцаю роджаны
Безпаваротна душаны
Бязвокі няпісьменны
Бяздожджыцай пасушаны
Бязьмежны і нязьмерны
Бязгрэшны і няўдольны
Бязстоўпны і бязмоўны
Бязгрэшны
Бязмысны
Бездаводны
Безграхоўны
Ёсць
Няўдольна
Тхлань
Без сэнсу
Ці гэта Мы

**Безделушка — беззаботность**

Няруплівых цацанак накупляў
Бяззычлівых
І сьцешыў і ачоліў
Накалюдзіў шчыра
Незлосьліва
І раніцою ў адзіноце
Ачуняў

**Давіла — давность — дальновідность**

У таўпярне тамакі
даўнюсенька
празорлівую паню
адшукалі
На лаву скочыла

Ат
не
ў
прымакі
Загрэблілася
Дый
Зубадзёру
даравалася

**Даров — двойственный**

Двоміцца двузначная двудушнасць
Схапіць дарунак
Дралу даць
І ў дзверы галавой убіцца
Як бармяком
дваквоціць

**Двор — двенадцать**

Да дамараднiка зродны шляхціц
прыйшоў
пухкі кундаль
за ногу падзёр
”И опять идут двенадцать,
За плечами - ружьеца.
Лишь у бедного убийцы
Не видать совсем лица…”
Дубальтоўны кантуш
Здзерыў
Да канца
Перавярнуў
Яго
І
да
Капца

**Долой – Доля — Дом**

Ато ж
далоў рапуха
Разглуздзілася
Доля спіць
Кругом двара ўсё зялезны тын
Сярод двара стаіць грыня
А пад адрынаю мядушы
Брацяніцы
Каўнатыя каморы
Ці не жыццё
І нехта на адрыне
З задавальненьнем
Трушчыць
Збажыньнё

**Домовой — Доносчік**

Спаконвечны ён чаляднік
Будаўніцтва гаспадар
Домараднік
Домаўласьнік
Дзед без шапкі
Гаспадар
Пеўня зрэзаўшы пад гольлем
Ставіць стол Дамавіку
Дадумляецца вачыма
у кашэль
арапніку
Дамавер ад будаўніцтва
І дудар ад чараўніцтва
Ладзяць
Ладзяць
Мерцьвяка
Гопа
Дрыца
Уп
Ца
Ца

**Досужій-- драп**

Навытаркі здольны
Датыркацца донькі
Ўволю досыць і дасюль
Датыкнуцца
Ў шчэнт
Наспрах
Цмока дражніць бойка
Жах

**Драстическое — дренаж**

У драсцё пайшоў дранаж
пагудастым дранаваньнем
корбай драманнё ня важ
Абібок
буян
Чаўпарня
Дрызджаць мусяць чарапкі
Як дрывоціна здароўка
Не ідзіце дружбакі
Да кастрыгі
ў сябрукі

**Дрес — Дрожь**

Жарствай трасаваць у ногі
падрабіць мальцоў
Кінуць у шлЯгні
ад знямогі
Дрыгнуць
удальцоў
Не ўцяміць не сабечыць
Толькі прыпусьціць
Ад каго і што нямечыць
Муштраваць
Вучыць

**Дрожжі — Дряхлый...**

Брошчы друхна
Гранцам кінуў
Шчодрая рука
Хізлым яблыкам
Адрына
стрэне вепрука
Поўны блажыны закутак
Не
ў
гары
як прыязны
Дружаніца
Не мані

**Едіно — Едіночісленный**

Аднаматны аднастольнік
Аднарадны аднаслоўнік
Аднавокі адназьверхнік
Аднаггучны адналетнік
Аднажытны аднакроўны
Аднасільны аднародны
Адналічбенны
Адмоўны
І
Бязмоўны

**Жарк — желанный**

У жарніцу
пражаніну кінуць
На палкіх прысаках
Як гнобіць пан наймітаў
Маршалкаўскаю
ляскай
у сраку
не датыкнуцца

палкасьцю ў грудзёх
то
Скоранька жаваць
Жыццё

**Желсв — Железо**

Жаўна ў залозным адзенні
у каптуры чырвоным
Па дрэвах
па жалонках скача
Жутлы жуцець
Ня й нача
Чакае
і
Дзяўбе
Жарабятніца крылая

**Забвеніе – заботлівасць**

Блукаціцца
Памыляцца
Клопатамі захварэць
У забудках непрытомнасці будучы
нарэшце
Прагаварылася

**Завод – загібнуць**

Завод загіне
Будзь ён хоць цагельня
Гарэльня
Бровар
Гута
ці расплоднік
Калі на посьнедак
на ганак
сядзе заваёўнік

закруціць у шчыльны скрутак
тэстамант

**Заглав – задевать**

Аддаў апошнюю сваю задушную капейку
У забедры
і
У няўдзячнасць
ці
Таму
Хто зваўся сябрам
і
Каго то зачапіла

**Задел – зазноблять**

Зажыванка-крыжаванка
На пазычку памяць узяць
У зазласьці не заццца
Як бы ў ганьбу не ўпасьць
У заможлівым запале
каб не спражыць і душу
Узяў у позыч
дай у позыч
Не заладжвай дзіру

**Зазноб – заіндеветь**

Застраміў будЫль у палец
Закалоў нечым руку
Быў тубылец
Стаў няўдалец
Прыхамасны
дробны малец
Сядзіць ладна на цвіку

**Заінтерес – заключать**

Заластацкі залашчонка
Замаўляе
Думае што загартоўка
А на справе
Панарад у павець
Закатае

**Ідылія – ізбавлять**

Паэмат з выабражэннем быту
Стод бахвальніка
А ўласна курна хата
Што ўзяў
Прынес
і
Што забыта
Поплам забыццём
Усё пакрыта
Можа сэнс
А можа
Дурнавата

**Ізвесть – ізвозчік**

На вапняку звіваюцца звіліны
Дотык пальцаў
на вякі
Выцягаючы сызнурна продка
прымяраеш яго да сябе
Мо на згубу пайшоў
Не павозчык
У словах ладны
і
ў
прыслоўях
Сухмень быў
Ці паводка

прусакоў морацЬ бурай
А ў вапне
Ты нарэшце
свайго знайшоў

**Іздержкі – ізліняць**

Здаўняя забава
Здрухнуць і скрышыць
Спазаранку зловіць
А ў вечар зжыць
Сражыць і спятрашыць
Нібы чорт зжыгаў каня
І з няўмекі строюць зьдзекі
Сцешыцца
ня мех
А век
жыцьця

**Індюк – іноземный**

Калакутная індыка фанабэрыста ідзе
Ягадніцы ў ягадзіцы быццам у ральлю кладзе
У яе святым пачынні ўлучэньня рознавер
Шацьцю покрыва
Вязніцы
І закратаная двер
Аназемны
Любы погляд
Іназемная
Ліштва
Друз
Руіна
Боль і
Горыч
Ат
Гуляйма
З ёй
Братва

**Інок – інтэлігеніція**

Інсургент і інсургенцыя
На колішняе і мінулае праекцыя
Аканечная сызмЕрная
Велічыня
Чужамоўніку інсінуацыя
Брахня
А на справе ад касаргІ
Што пабудкаю
У вякі
З рознаІстаю інамЫснасьцю
За свае
паміраюць
існасці
Дружбакі

**Кабот – кадык**

Каб ня быў дзедка, то была-б
бабка
Кавалеркая кавярзА
На людзей
на зямлю
Ашаўцоўка
Падкураная зёлка
А трасца
Усё
Адна

**Карлік – касаться**

Карштаты карузлік
Кішэньчыць назутку
Кранае картуз
Ды ляціць у катух.

**Лапа – ласточка**

Галубіць лапаць ластаўка
Блутае быццам кашу абувае
Галубіць коўчык
Глашчыцца
А ў рэшце
ЛутОвыя
адзЕне
кАверзьні
Лапаць знай лапця
А бот
Не чапай ластаўку

**Лебеда – летнік**

Лабаду ў летнік не кладзі
Там ў лядоўні ледзіна жыве
Лядунцамі сходнік укладзе
Лёгкадумлівым
Лацьвей
Пахлебнікам застацца
і
манькуртам.

**Ледок – лепетать**

Ледавеець ледалом
Лежачы лязом на крызе
Лежабокі
Прыплылі
не дайшлі

**Лоб — Лозунг**

Покліч гучны
А ён лабырыцца
Быццам лыжку ў потая

стругаліць
У мярлогу човен прыхаваны
Хвацкаму галцяю
Дараваны

**Мамзель – маніфест**

Па дастатак паненка манеўрыцца
На майдане бы лялька вычурлівая
Зарукаўка салдацкая конаўка
Вабіць
Маніць
Прынадай надзеіць
Спокіў
Граматаю
Бы спагалоскаю
Паказуючы
на манеж
ат
салдат
Ці запрэж
Ці зарэж

**Маніш – Мярордэр**

Устаў і выйшаў з хаты
Распаглашаецца дзеўка
на кірмашох
Паўкашуляк
у кут
закінуты
Каб ня бачыла мырзгаці маці
Трэба ўстаці
І трэба забраці
А ў вачах
штосьць
Мярэсьціцца
у нітніцах
шышаваці пагрожкі

мармялядамі
ня скончыліся
ножкі

**Марс — мастіка**

Шукаў Марс
Язэп у сакавік
маршавалі луннікі шыхтамі
быццам бы
з алеярні
на халсціну
і
Ў сьцену цвік
Прама ў вочы
дзе лацьвей
У
грудзі
не прынудзіць жыць жыццём
так проста просяць
людзі
ты ж не масьляробня
не масьліца
а й ня боўтала
мастачыць
проста
Здольнік

**Маст – Матрімон**

Дапатопнае стварэнне
аграмаднага росту
Бы пяхцяр рагожавы
паглядае
Ці ружовы ты
ці іначай
У вясёлкавым настроі
матнасьцю абуджаны
Чорствы

Сянічок
адкідае істасьць духа
кволінькі
Дручок

**Матр — Мебель**

Угнязьдзіліліся
Угнязьдзіліліся
Ці да нечага
Прычысьцілліся
Прыхамаціліся
Прызвычаіліся
Ды
Забыліся
Па мацЕ
па посьцілцы
Ногі не пасьцёрлі
Не лабатыя
Паўнаквeтныя
А міглівыя мэблі
Упёрлі
Ды махтачаць стажары ў дАлечыні
Махценькія
Масенькія
Памыхамацыю
От
Бы
Па
вам
ды
Сявенькамі

**Меблір — Медл**

І вось астовілі хату
Прыбралі
Спавольна
І пад сябе

Ой не гудзі мой зяцю
Дунаю
Што было таго не будзе
Баўнасьцю спавольнай
Раўнаважнасьцю жыцця
Як жылося
Добра
І вольна
Медвядовая медальля
Пырскі ў роспачы
Зоры ў падоле
Словы шчырыя
На сцяне
Барвай руднаю
І маруднаю
Прыгадаць
Не спаваліць
цябе

**Между – мелюзіть**

Мядуніца
Мядуніца лугавая
Чом ня пахнеш
Чом ня пахнеш на ўсім лузя
На прамежжы недарэка
На граніччы размяжаецца
Дробны мелкі мятлік
Мікрыцца драбнічны
У ціхай роспачы хаморыцца
Мо ўсьцішыцца
Драбінка

**Ментор — Мерцаніе**

Мерлы мярляк
Мялее мератам
Мярцьвіння мярьвіць
Быццам нератам

Мярцьвец плюгавіць
Гідзіць і паганіць
Агіднік мерзлы
Поўдніцу брыдзе
КлАдзены жарабец
Куды
й
каго
Ён
Прывядзе
Было
І
Ня
Будзе
Ці каго
спаганіць той мярляк
Пакіне Мерат

**Мерк — метеор**

у Замець кінуцца
у Шугавею
шпургаць ад Мсьцежы
крушыць
у Завею
Ці будзе то
Зялеза
Медзь
ці
Цына
паветраны камень змяце Агніскаю

**Мздоімец – Міласердіе**

Якая работа такая і ЗАПЛАТА
Перамігні мезеніку ў пяты
І споліўку залі і ў мікраскоп
І памілУйся
з подаўкі

Слабы ты лубінЯтка
Бо не хабарнік
ты
А мухаед
На што ты ажаніўся
Стары татка

**Міміка — Міссія**

Умейма тлумачыць ня словамі
Аблiччамі і спокiвамі
Самоменьш меньятюрліва
Хай у мораве паўстае
Згодалюбнае крыжмо
Маравая згОдна
Тады і прыйдзе
Ён
Чакайма

**Навожд – навій**

Наўзвеселі як бярэмя нашыхтавалі
Накідалі ў вазы
У палазы
Усьцешныя часы бывалі
Ой коніку вязі
вязі
Ат раптам конікі
ці то пачвары
Як наслань конадзённая ідзе
Каму навец
ці навій
Ат усё мярцьвень
І мерцьвякі
І што чакаем

**Назва – Мяно**

У навучаньні ёсьць мяно
Дедлівая й надакучлівая прыкрасьць
Лацьваверны зубрыць
І то не хітрасьць
Найменьньнямі наўзмоўку
Гаварыць
Мо што наквАктаіць

**Наскал -- Насуесл**

Спадчына
Спадковы спадак
Быццам човен у трысьнягу
Пасярод наскладанай нашчыры
Цешыць намараззю
Нассланьнё
Пад настрой
Нагрызмоліць шэрані
Пад убой палегчы самому
Пад умову ці без умовы
Не напляўзгаць
Не напалохаць
Тое з чым навалондаліся
Кожны мусіць быць
Спадкабернікам

**Насумат – Нахал**

На накопе паўсюдзённая сядуха
Абрус надарожнікам кладзе
Як брусьніцы жамярыцы
па кутах дзе
ні
дзе
Падбухторвае нахрапнік
Супыніся
Без натугі канцы зьвядзі

Ад прыроды прыроджаны
Натшча
Ад зухвальства
Не адыйдзі.

**Нахішчать – Нашествіе**

Пачатны, дапатопны сьвет
Пачатныя прыроды сілы
Аброжу бы сабачую пашылі
Ды вось падзерці поўсьці не змаглі
Надзёрсталі па скуры
І ў галаве
Прасьвідравалі нешта
У лусне
Наблавушылі
Сталі нагатове
Начотваць
Хто апошнім падміргне
Начыста начхаць
Нацмокацца ў долю
Нашто яго чапаць
Бязмоўную юдолю
Мо ў нос сальміяку
Мо нахаробіць кіям
Дасьцейліва сказаць
Які ты
Ёсьць
Народ

**Невідім—Негоціант**

Ці та дзева
Ці ўдава загавораная замуж
Недзе былі ўчорА
Недзе трэба шукаць зараз
Непастрымлівасьці склон
Ня ўзнямогу
Ці ў бязверыцы

Ці ў скон
Ці ў нягодніцу
Чужаземнаму купцу
Толькі ласьціцца
І да каго ж ты
ПрыйдзЕш
Невагомая Неўзваротніца

**Некор – Необход**

Некуды пасадзіць
Ненагляднага нагароджанага
Нязглайлівым даўбянём
Усе ўзнагароджаны
Ён ненасыцьцю быў народжаны
Плюхаю і слатою
неабачна ахрышчаны
І ў бязкарнасьці
І ў ненасыці
У непаўсьцяжнасьці
І ў нязломнасьці
Апамертнае яму імя
Неабуцька

**Нож – Нюхать**

Духавая хвароба тугою і драгіля б’е
Лістапад прымушае ў немань лясную ўглядацца
вось і вохшыць няма што
У похвы прынудзіць кунежу
У начоўках засталася
Поўня хістацца

**Обнеж – Образов**

Абласуціў лёстачкамі ды прымілачкамі бабу
Ды таннасьцю не спаляшчай
Удосыць фальбанкамі

Шкляркамі
Прыхільнасьцямі
Не заляцай
ці распесьціцца
ці абагачыцца
абагоўніка багоміць
спакушальніка захвочаць
удосыць
абастовіць лахудру
І гэць

**Образ—обрезгів**

Абсяканец
Цельпушок
Табе кулешыку яечнага смачнага
Ты надзорны чыншавічок
Не ўцяжлівы і ня смачны
Ты аскромка аголенай велічы
Не наўзорчык вялікіх высілкаў
Пазямельны ты чыншавік
Ацягчаны сваімі высілкамі
Ты са спохапу
ды са злосьці
На кагосьці мо і
абрызнуўся
Толькі сябе агаліў
Ацягчыў
Не бацькоўскімі
Заручаніцамі

**Мор – Мудрый**

Замарозілася рагожка
Цёмка на дварэ
Мянтэжыць мопсік лахманогі
У зморшчынах маставіны
І мармуровы мятлік мрэе
мо аб замужжы

ці аб чым
мо ён прахвост
ці жулік
ляціць на
ягАдвІк

**Муж – Мыта**

Мужу мыта не мытА
Мурашом жыцьцё вацавАць
На палецішчы працаваць
Мылкай мысьляю
мучыцца
Гудзьбіты не гудзіцЯць
Татку не будзіцЯць
Пацягні яго за смытак
Мо не мытнік
І не
Мытар

**Набат — Наваждаць**.

Каб зьбіраўся народ на спалОх
І ў кожнай руцэ пры мячы па камёлцы
Можна рэзаць і можна сячы
І палеглых ворагаў не лічы
Хай набрузнуць
як
у
набільні змочаныя ніты
Здатныя набойкі на абцасы
Хтосьці басанож
А хтосьці ў
ласцы
і ў баку
сьмяецца
спасцікач

**Тесем – Тіс**

Таварыш
«Верь, придёт она
Звезда пленительно счастья»
І ў сьцісках дураснага
Аднаўласьця
тасёмкаю
у таўхатні
Качы ці не качы
Ціпун
Птушыную хваробу
І з языка
І з мовы
Стужынай пругкай
Адстральні

**Перезол—Перемёт**
*(паўтарэньне пройдзеннага)*

Перакабілі
перакалупалі
саміх перакаробіла
а ўсё пайшлі
нагамі
пераржаргаць
думалі за дзірванам
перахітрыць
перакуліцца
перакукобіць
перадзюбываць
а на справе
перадрабляліся
І
прамарудзілі
прайшоў міма
пярокрыжкі (Крыжаванкі--Раздарожкі)
КРЫЖ
Ізноў на раздаржжы
ці Мы

**Пожалов—Посумент**

Павітаньньне Добрым людзям
Павітаца з ласкаю
Пажадаць пасьцецць
Ад ральлі пазайздраснай
хай
пажорнік
пазакІдае
незабыўнага багацьця
галунамі залацістымі
пасьняданкамі
усім
зямля—ральля
і з ласкаю
і
з
Шчасьцем

**Пахмур-Пемза**

Люблю парэчкі а больш цёмныя
У па крыніцах ці па азёрах
краёвідзь
І
сьціслы спазор
бы збаўтавая
Патляванікі
пасьля птушак
у жыта паселі
да паволкаю агарнулі
быццам каўдунцы
паелі

**Перабал—Переспіна**

Як і дзе
Як і штО
не крані

ПерабОўтаіцца
Так і цягніцца ў пераварОць
ПярОвеслам жыццё
АгОртваецца
Перабрузлае малакО
Нейкі там перабежнік
Перашаліцца
Праз перавалачы
Перайдзе
Перажэніцца
Перакелзваецца
А ці ральлю
Хто
пераскарОдзе

**Разжів — Размат**

Якога рожна
разпрастана ты адкідаеш мне руку
разляніццаю як у пана
распалажыўшыся ў цяньку
Мо
бо
і
з
некім раззнаёміць
А можа з кімьсці
разсЫсьцець
І быццам рожніцы няма
І толькі жлукта
слупяка
у чарупку гоніць
і
Не
размаскаліць
трупяка

**Сарай — Свал**

“Сарацынское пшено”, што ты меў на ўвазе
Дзядзька
У ружовым саркафазе
пагалінае жніво
Мо ў халодным будане дзеўкі апранутыя з паяскам
Наўзбоч вёскі стаяць у хатцы
здавОленьня бы чакайме
Ці са злоснаю насьмешкай
згаліныя
пайдуць
Каля ставу ды на палях
пасядуць
Знаюць Юрку і ззаду й з боку
Злосны сьмех
У будыне на саломе застанецца
жамяра
Ды злосны сьмех

**Тітл — Торг**

Гурма
Тупаціці
Гурма не маўчыць
Гурмою латвей
Гурмавата таміць
І гурмай тытулвацца
І тупатаць
Гурмою цішком
У багне тапіці
За хлопцам з дудою
Шыхтамі ідзіце
Гурмою
Гурмою
Цішком
Адыйдзіце

**Угодье — Удрать**

Угамоньваў дзядзька зубы
Удараў па плоту
Прыкладаў да лёду
Змазваў мёдам
Прыціскаў да стоду
Не прыемнасць і не ўцеха
ухітрыла грызата
Ды й сядзіць вудар на лядУ
Падпёр вудай бараду

**Хайло — Хутор**

У хаце сядзе папіхач
сталёвым характарам
Батузам яго ляскаць
Херам хлуд нарашчваць
Кубрыкам хлябок ядзе
Штосьць каўтае ў барадзе
Хвасьціцца хлудзінаю
Плюха пад адрынаю
Хіжны й дросны
Хрэн у халупе
Нежанец
Шашок
Зяба
У хлуд
Занеслая
Туга

**Кот – красота**

Дрывасмол
шукае дочцы качубы
у каго гамалейка пабольша на чырвонцы
скайнасьцю віляюцца чубы
паміж канаплястасьцю і прыгажосьцю
да буланага каня хто падвядзе

хто ў абрусе прынясе акройчык
будзе ўсё
і ўсім
і дзе
ні
дзе
крадзьба
а
мо
на
ўскрайні
качаночак

**Ледок – лібо**

Лёшку ў
лепёшку ў
блінчык скруці
лемешам
па сцятай прайдзі па ральлі
мо пасьля жыта
узыйдзе лянок
і
з
апомерці паўстане дзядок
мо зледавеець
згадаўшы апошні шэляг
Каму аддаў
крывасьветніку
ці
кажану

**Нечувствіт—ноет**

ручнікамі не шаўковымі
жэбры жэбрыль
шчыміціць

**Одежа – одеяло**

От як добра адзявацца
апрануцца ды адзежыцца
Без адзежы
і без ежы
не пасядзець і на вежы
пасьля лазьні нацягні бялізну
прыкладзі грудзям хусьцё
Вокам кінь на сьвіту
Мо не на цябе шыта
чыясьці ў куце
корзна
Грыўні кольцы
ды брашна
Коркі влоскія з падбоем
на абцасах ды цвіках
Як атрухлеў ачмурэлы
Дык хадзі ў
лычаках

**Плат – плот**

Шчытны
зворны
стульны
зьніцны
як пляўзьня
ў твар уцісны
як плашмак
пад голаў уцісны
наўсплась у бруд
каб не забачыць
І пласьню ў ранку ўбачыць
За тынком
Зацьвільля свята
Ат
Гуляйма
Жа
Рабяты

## Некор — необход

нехта некага шукае
нехта некаму сказаў
нехта некуды пайшоў
ці ў багвіньне ці да зор
нельга нечага зрабіць
нельга ў непагадзь аплыць
нельга ненашта на ўзор
прыяднасці ў дакор
непарушнае начыньне
непарушнае быццё
непарушна багвіньне
Ці сапраўднае жыццё
Боцю
Боцю
Баг і віньне
Нехта
Нельга
І не
Згіне

## Пріутіх — повар

Прабаўнік мае тое заданьне рабіраць што
прабадзяіцца
мо прабудліва прабудзіць
мо прарухнець
прахварэець
ці прагледзець
клямкі ўбіець
каб да кагосьці прыкЕшкацца
Можа хтосьці і прытуліць
пробніка
каркаваты прОпуст
Бе—ла -- ваціна
і тады праруха прыязджае перабіраць
што
прабадзяіцца

У дапамогу
ці Богу

**Сарай — Свал**

Субач гары праходзіць вулка збягае цукрыста
хтосьці зблутаўся калісьці і ня шкода
У расе блукалі доўга штось гублялі
зблізіцьжаццаліся
Ашчадзілі
Біты палі ўсё медзяныЯ
бо каней збатовалі
ці дзяцей вясёла
склалі ў зьбіток

**Убед — Угодл**

Ад нявестачкі ў атласе зачадзець у бяленькай
сярмязе ўмаўлянымі ўгаварамі ці дагодліваму ці
ўморанаму гора мне ўцяганай выкручлівай мо
ўкрасьці што ці пачэставаць ці мо ў важкім
калечаньні збаву знайсьці
захаплядьнае
захОпленьне

**Усекі — Уход**

ліхацкая язда ды на ліхвацкіх конях
ды па пашыбеньцах
ух
які
зух
начыньне разкідалася па прасах
і што апранецца на ўроджаны
абвал
пры спахатлівай умудрасьці вушак
выходзіць стоўсьць ўмарыная ранкам
паелі юшкі

хлопцы
і чака    йма ранку
ад ранку
лыжка можа і не ўпадзе
а недаедак
знойдзем
у барадзе

**“Яць” – Еда — Есть**

Пять радкоў
Ядун ці
ядомы
Хтосьці ехаў, а хтосьці вядомы
паядалі язоўе едкія
былі сытыя і былі сведкамі
і на ўскрайку гасьцінца яздава
і не кому не
абавязаны
нейкім едзівам і не на есьціцца
едкасьным
дзіваком прынявесьціцца
Не лічы радкі
з’еданы
ядунамі

**Юбід — Юфть**

Як марыш коркі апрануць шукай
юфть
Ад узрослага быка найлепшая юхта
а як маеш тУліцца
прынарліва бажаволіцца
да юнкера
маладзёнам з гумарам
родзічам па праўнаму
з залатаром
нават жэўжык у падол
і няма юдолі

калі ёсць ў падоле
малады салдат
Каму брат
Каму ....

**Ябеднічать — Яшчік**

Каверзала яйка
студзеньская ягнятка
што пачтар седаўкай прыцiснуў
мо паганцам быў
трутны шкіліц
мо труціў
у ядро замысьліваў
яйкаватую катрыгу закідваў
у палоне ясыр замысьліваў
скрыня скрыначка
то мая
яўная
югася  памяла
з жарчыстасьцю ды пахотлівасьцю
і зажарылася і закіпела
карундавы юх напаў
ды яшчаркаю
вузьніца схавалася
хто каго пахаваў
на дзяды

**Пажалов – Поумент**

Ці каму бадай пажаліцца
можа хто на хрыбетніцу пагаліцца
ці пазвольна
ці ганьба
ці ідовішча гурба
каму стаўбы пазлачоныя
каму пазаўчора палічаныя
пазасуваюць у гурты пажорнікі дажынкаў
і павітаць не будзе каго

усе хаўтурнымі галунамі пазначаныя
пазаўчора пасьнеданыя
за плотамі прыхаваныя
на словах шанаваныя
пазаздросьцінныя і
пазашрубоўванныя
адна мара
папаліць
і
пагасьнікам
паціснуць
у руцэ зацісную сапуху
і
ад
чарноцьця
задаволіцца

**Усекі — Уход**

Ліхара па па ліхвацкі ліхвараць
ці за быструю язду
палёт
ці за лясачку з якой папіраціся
ды да дзевачак заляцаціся
не ў дагляд
кожным раннічнікам нутроба
яго ўмарыць і сьтоўсьціць
спатоленая
быццам баечны шчасьлівы край
мо сьцягнуў што за вушак
умудрыў
ці ў пашыбені сеў на вілы
як качка

**круж — крепость**

Кружыць кружыцца ў кружэнньні
не Зямля
верціць крынджалёва круцель

немаўля
ад крупінкі родзіцца стромкая гара
ад прысенцы дараваныя скрыльцы
не з конаўкі вады вам піці
крыланы
карункамі
каламесіць буйна
мацаваць
мацнець
і быць
мацАрамі

*Іменьнік*

*Ад Агавія*
*да*
*Хамы*
*і*
*на*
*перад*
*да*
*Арыны*
*Простая*
*УДЗЯЧНАСЬЦЬ*
*да Юстыны*
*сярод людзяў*
*у адрыне*

*Вацлаў Юстынавіч*
*Дзякуй.*
*Праз век: Сяргей Тарасаў*

**© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2013**
**© PDF: Камунікат.org, 2013**